Выданьне пасьля канфіскаты.

Цана 15 гр.

Przesyłka opłacona ryczałtem.

# БЕЛАРУСКІ ФРОНТ

НЕЗАЛЕЖНЫ НАРОДНА-РАДЫКАЛЬНЫ ЧАСАПІС

РЭДАКЦЫЯ і АДМІНІСТРАЦЫЯ:
Вільня, Вострабрамская 2—11
(Wilno, Ostrobramska 2—11).
Адчынена ад 9 да 19 г.

Часапіс выходзіць раз у месяц

Выпіска: на год 2 зал.
на паўг. 1 зал.
на 3 м-цы 50 гр.

№ 8 (17) Вільня, 5-га ліпня 1937 г. Год II.

## Значэньне каапэратывізму, як новага грамадзкага ладу.

Аднэй з галоўных мэтаў каапэратывізму ёсьць палепшаньне быту ўсяго чалавецтва праз агульнае і вольнае супрацоўніцтва. Гэтае супрацоўніцтва павінна адбывацца ня толькі ў галіне спажывецтва (спажывецкія каапэратывы), але і ў галіне вытворчасьці (вытворчыя каапэратывы). Вытворчасьць і спажывецтва гэта дзьве падставовыя дзялянкі людзкога бытаваньня. Чалавек працай вытварае добро, каб яго так ці інакш спажыць (выкарыстаць), а спажывае, каб паддзяржаць свае сілы дзеля далейшай працы. І так праз усё жыцьцё.

Сілы аднаго чалавека часам вельмі слабыя, каб здабыць для сябе прадукт спажывы або палепшыць спосаб вытворчасьці. У вялікіх і трудных справах патрэбна супрацоўніцтва многіх людзей — і мы бачым ад найдаўнейшых часоў, што людзі злучаліся ў грамады, каб напр. забіць вялікага зьвера, абараніцца ад сільнейшага ворага або збудаваць большую будыніну. Значыць, людзі заўсёды злучаліся, так як і цяпер злучаюцца, каб здабыць для сябе лепшыя варункі жыцьця. З гэтага вывад такі, што *каапэратывізм ёсьць жыцьцёвай канечнасьцяй.*

Жывём у часох жорсткага і напружанага змаганьня паміж рознымі грамадзкімі (сацыяльнымі) і палітычнымі кірункамі. З усіх грамадзкіх кірункаў у сучаснасьці наймацнейшымі зьяўляюцца фашызм і камунізм, а з палітычных кірункаў — нацыяналізм і інтэрнацыяналізм. Змаганьне гэтае яшчэ болей завастрылася з тэй прычыны, што грамадзкія элемэнты ў гэтых кірунках лучацца з мамэнтамі палітычнымі і наадварот. І так—фашызм злучыўся з нацыяналізмам, а камунізм з інтэрнацыяналізмам, прыгэтым як адзін так і другі кірунак імкнуцца да збудаваньня дзяржаўнага капіталізму.

Знаходзімся паміж двама полюсамі грамадзкага і палітычнага змаганьня. З аднаго боку выступае камунізм, які ўжо мае блізу 20 гадоў свайго практычнага існаваньня, а з другога—фашызм, які хоць зьяўляецца маладзейшым за камунізм (Муссоліні дайшоў да ўлады ў 1922 г., а Гітлер у 1933), аднак набірае штораз большага разгону. Абодва кірункі ў тэорыі і практыцы ўжо настолькі ведамы, што аб іх можна выдаць ужо цяпер сваё суджэньне. Кожны аб'ектыўны абсэрватар, прыгледаючыся ўважна да камунізму і фашызму, можа прыйсьці да праконаньня, што як адзін так і другі кірунак у практычным жыцьці экзамену не здалі! З гэтага вывад ясны, што трэба стварыць новы грамадзкі кірунак, які болей справядліва падыйшоўбы да разьвязкі жыцьцёвых пытаньняў, высьцерагаючыся прадусім гэтакіх крывавых спосабаў, якіх ужывае камунізм і фашызм.

Чым-жа рожніцца каапэратывізм ад гэтых кірункаў?

Перш за ўсё тым, што ён будуецца на прынцыпе *беспрымусовасьці*, з выключэньнем фізычнай, матар'яльнай сілы. Усім ведама, як цяжка перажывае беларускае сялянства ў Саветах прымусовую калектывізацыю. Камуністы цьвярдзяць, што сяляне ішлі і ідуць у калгасы дабравольна. Мы аднак, знаючы вялікую прывязаннасьць нашага сялянства да прыватнай гаспадаркі, ў гэту дабравольнасьць ня верым. І ў нас здараюцца людзі, якія кажуць, што гатовы ісьці ў калгас, бо там *«дадуць»* прынамсі зацеркі, але трэба сказаць шчырую праўду, што гэтыя людзі гатовы ісьці ў калгас з гора, ня бачучы для сябе іншага выхаду. Гэта не камуністы, а калгасьнікі „з гора", для якіх ідэалам на сьвеце ёсьць калгас з зацеркай. З такіх людзей для камунізму і для Сталі на карысьці будзе мала.

Каапэратывізм *адкідае змаганьне клясаў*, за якое стаіць камунізм. Змаганьне клясаў мы адкідаем дзеля таго, што ў беларускім народзе ярка азначаных клясаў (фабрыканты—пралетары, абшарнікі — сяляне) няма. У нас няма сваіх ані фабрыкантаў, ані абшарнікаў, а ўсе багацейшыя клясы належаць да іншых народаў. Беларускі народ у сучаснасьці складаецца бадай выключна з аднэй клясы: сялянства. Дзяліць жа бел. сялянства на кулакоў, сераднякоў і беднякоў, як гэта зрабілі камуністы, каб гэтакім чынам стварыць нейкі від клясаў і правесьці паміж імі змаганьне, мы ня хочам. Гэтак створаныя „клясы" ёсьць творам штучным, не адказваючым сапраўднасьці, бо сапраўды багатых сялян цяпер у нас вельмі мала — і на наш пагляд, не багатых сялян трэба нішчыць, але паднімаць бедных, каб яны дайшлі да магчымых варункаў жыцьця, так як сяляне латвійскія, літоўскія і іншыя. Наша сялянства мусіць быць моцным, бо яно мае перад сабою вялікую ролю ў нацыянальным адраджэньні. Апроч гэтага падзел нашага сялянства і змаганьне „клясаў" давялоб наш народ да поўнага аслабленьня і адвярнула-б яго ўвагу ад вышэйшых нацыянальных ідэалаў. А гэтага якраз хочуць ворагі нашага народу.

Каапэратывізм выступае *процiў дыктатуры* якой небудзь аднэй клясы (напр. пралетарыяту) над іншымі клясамі. У нас няма свайго, беларускага, пралетарыяту, які мог-бы праводзіць нац. ідэалы беларускага народу, так як напр. у Польшчы ППС. Пралетарыят у нас, асабліва па гарадох, чужы, таксама як чужымі для нас зьяўляюцца капіталісты і абшарнікі. Ядром і сілай бел. народу ёсьць сялянства, з якога выходзіць і на якім апіраецца ўвесь бел. рух. Мы ня маем з багацейшых клясаў нават тэй карысьці, якую мелі камуністы з Леніна, Чычэрына, Патёмкіна, Талстога і іншых, якія паходзілі з дваранства і арыстакрацыі. Дык нашу сялянскую масу трэба ўзяць пад асаблівую ўвагу, як жарало бел. адраджэньня. Сялянства, пасьля здрады народу магнатамі і баярствам, перахавала нацыянальныя нашы багацьці, як мова, песьня, абрады, звычаі і сталася рэзэрвуарам жывых народных сіл. Дык трэба гэту масу надзяліць зямлёю, прасьвяціць яе, даць ёй усе магчымасьці матар'яльнага і культурнага (духовага) бытаваньня. Дыктатура чужога пралетарыяту над гэтым сялянствам можа зьнішчыць яго так, як і дыктатура чужога капіталізму (фашызму).

Пры ўсім гэтым мы стаім на аснове *каапэратыўнага дэмакратызму*, сутнасьць якога ў тым, што ўсе людзі, якія станавяцца ў рады каапэратывізму, маюць роўны голас і роўныя правы. Каапэратывізм апіраецца на супрацоўніцтве, а там дзе існуе супрацоўніцтва вольных людзей, мусіць быць дэмакратызм.

З гэтага вывад, што каапэратывізм — гэта ня толькі ўзаемная помач і палепшаньне быту сяброў, гэта грамадзкі кірунак, які жадае збудаваць на месца капіталізму і камунізму новы грамадзкі лад абапёрты на большай справядлівасьці ў падзеле грамадзкага дабра.

Галоўнай мэтай камунізму (сацыялізму) ёсьць пераход прыладаў вытворчасьці (капіталу) ў рукі грамадзянства, а галоўнай мэтай каапэратывізму ёсьць справядлівейшы падзел грамадзкага дабра і грамадзкага даходу.

Разважаючы асновы і імкненьні каапэратывізму, можа хто прыйсьці да вываду, што каапэратывізм ёсьць зближаны да анархізму, які таксама абасноўвае тварэньне новага ладу не на прымусе, а на вольным супрацоўніцтве. Але гэты закід ня мае грунту, бо анархізм у сваіх апошніх мэтах зносіць дзяржаву і дзяржаўную ўладу, а каапэратывізм ідзе да будаваньня і захаваньня дзяржавы, як арганізацыі народу.

## Крывавыя падзеі у Саветах.

Растрэл Тугачэўскага і 7 мёх выдатных савецкіх генэралаў ізноў ускалыхнуў сусьветнай апініяй. Усе пытаюцца, што там робіцца у гэтай абшырнай дзяржаве, дзе гэтак многа праліта крыві чужой, буржуазнай, а цяпер льецца кроў свая, камуністычная! Чаму і за што адны адных растрэльваюць, пытаюцца людзі і, трэба прызнаць, што адказаць гэтае пытаньне даволі трудна. Каб даць здавальняючы адказ, трэба знаць *кулісы* савецкага жыцьця, а гэта знаюць толькі Сталін і найбліжэйшыя да яго асобы. Быццам найбольшыя знаўцы Саветаў, быццам нават заграничныя дыпляматы, якія сядзяць уМаскве і якія павінны *ўсё* ведаць, былі зьбянтэжаны апошнімі падзеямі і ня ведалі, якую справаздачу выслаць сваім урадам... Бо сапраўды, такіх падзеяў, якія адбыліся ў Саветах, яшчэ ня было ў ніводнай дзяржаве!

Калі адбылося выгнаньне Троцкага, тлумачылі гэты факт асабістай рывалізацыяй паміж ім і Сталінам. Калі наступілі растрэлы Зіноўева, Каменева, Пятакова і іншых, тлумачылі, што Сталін пазбываецца старых бальшавікоў, з якімі ня хоча дзяліцца ані ўладай ані заслугамі. Каліж растралялі маршала Тугачэўскага і таварышоў, ды яшчэ паставілі закіды шпіёнства і прадажніцтва, спачатку думалі ў Зах. Эўропе, што Сталін проста ашалеў і ў шале гатоў пабіць усіх сваіх сапраўдных і ўтроеных ворагаў. Пазьнейшыя аднак падзеі паказалі, што Сталін зусім далёкі ад шалу і што ён праводзіць нішчэньне сваіх і савецкіх ворагаў зусім сьведама і плянова.

Чаму ён гэтак робіць? У чым віна растрэляных павадыроў і дастойнікоў сав. арміі?

Перад тым, як дадзём адказ на гэтыя пытаньні, нам трэба затрымацца коратка над асобамі растраляных і над іх значэньнем ў савецкім жыцьці.

*Тугачэўскі* (расеец) — паручык царскай арміі ў часе Вялікай вайны, б'ецца з аўстрыякамі і немцамі, дастае ордэны, потым трапляе ў нямецкі палон, з якога ўцякае і прыбывае ў Петраград, дзе ўжо пануюць бальшавікі, ад 1918 г. сябра кам. партыі, граміць Дэнікіна і Калчака, павадыр сав. арміі ў вайне з Польшчай у 1920 г., ад 1935 году маршал сав. арміі разам з Варашылавым, Блюхерам, Будённым і Егоравым, нагароджаны за заслугі ў будаўніцтве сав. арміі ардэнамі: Леніна, Чырвонай Зьвязды і Чырвонага Сьцягу. Першы раз прозьвішча яго, як падазронага выплывае ў часе апошняга працэсу „трацкістаў", калі Радэк заявіў, што ген. Путна з Лёндыну прыяжджаў у Маскву дзеля перагавораў з ім са згоды і веды Тугачэўскага. Яшчэ 1 мая Туг. разам з Сталінам прыймае дэфіляду войска ў Маскве, а ўжо 11 мая назначаецца на начальніка Паволжскага вайск. вокругу, але туды ня едзе і зараз пасьля самагубства Гамарніка арыштоўваецца. Сталін хацеў зьліквідаваць Туг. павалі, але Туг. зразумеў гэта і быццам заявіў Варашылаву: „Вы хочаце мяне зьліквідаваць, але я ня ўступлю. Ведаю, што мяне чакае, але я ня Ягада і ня Зіноўеў. Можаце мяне забіць, але ня ўдасца вам мяне панізіць"... Пасьля гэтага пастаноўлена Туг. зьліквідаваць і на тайным паседжаньні вярх. вайск. суду 11.VI. асуджана яго на растрэл. Кажуць, што на сьмерцьТуг. ішоў пагеройску. прыгэтым лаяў Сталіна, так што салдат, якія растрэльвалі яго і таварышоў, выслалі з Масквы на правінцыю.

*Якір* (жыд) — змагаўся з белымі і Палякамі і слыў за аднаго з лепшых сав. генэралаў, ад 1921 г. начальнік важнага ўкраін вайск. вокругу, нагароджаны найвышэйшымі сав. ардэнамі. Дэкрэтам 11 мая назначаны на начальніка Ленінградзкага вайск. вокругу, але становішча не заняў.

*Убарэвіч* (літовец) — так як і Якір, заслужаны для камунізму ў хатняй вайне. начальнік Каўкаскага, Маскоўскага, а ўканцы Беларускага вайск. акругоў.

*Эйдэман* (латыш) — дырэктар Вайск. Акадэміі, потым начальнік Оссовіахіму (тое самае што польскі LOPP).

*Корк* (эстонец) — начальнік Маскоўскага, а потым Ленінградзкага вайск. акругоў.

*Прымакоў* (расеец) — заступнік начальніка Кіеўск. Вайск. Вокругу.

*Путна* (літовец) — вышэйшы ўрадавец сав. ген. штабу, вайсковы атташэ (дыплямат дзеля вайск. спраў) у Лёндыне.

*Фэльдман* (жыд) — супрацоўнік Гамарніка ў палітычным штабе сав. арміі.

Пасьля працэсу савецкая прэса пісала аб іх, што „восем шалёных фашыстоўскіх сабак растраляна“; адбываліся масавыя маніфэстацыі, на якіх выносіліся рэзалюцыі аб бязьлітаснай расправе з здраднікамі бацькаўшчыны; выражалася падзяка начальніку ГПУ Ежову за выкрыцьцё „трацкіска-фашыстоўскіх гнёзд“; усе арганізацыі выражалі сваю салідарнасьць і вернасьць для „мудрага і геніяльнага павадыра народаў Сталіна“, прыгэтым жадалі выкрыцьця *ўсіх* ворагаў савецкага саюзу і пакараньня іх...

З апошніх слоў відаць, што на гэтым не канец, што арышты і прысуды сьмерці там будуць адбывацца і далей. На якім-жа грунце гэта ўсё адбываецца?

Жыдоўскі „Nasz Przegląd» піша, што пасьля растрэлу Пятакова і інш. (студзень г. г.) адбылося паседжаньне Цэнтр. Камітэту Кам. Партыі, на якім Сталін меў прамову, у якой падчыркнуў, што гісторыя складаецца ня толькі з барацьбы клясаў, але і *барацьбы разьведак*. Разьведка адыгрывала вялікую ролю ў францускай рэвалюцыі, у часе Вялікай вайны, цяпер у жыцьці Сав. Саюзу. Дзеля гэтага трэба зьвярнуць асаблівую чуйнасьць (бдительность) у справе разьведак — казаў Сталін. Пасьля гэтага пачалі правяраць чуйнасьць усіх выш. урадаўцаў і парт-сакратароў. І штож аказалася? На найвышэйшых становішчах прабывалі людзі, якія ня былі чуйнымі і дапусьцілі каля сябе разьведку. Тугачэўскі, Гамарнік, Ягода, Гікала, Галадзед, Чарвякоў і шмат іншых прызнаны за ворагаў народу, якія або самі бралі ўдзел у разьведцы або не пазналіся на ёй. Цяпер сав. прэса ў бязьлікіх артыкулах падае спосабы, як пазнаць шпіёна, бо ім можа быць ня толькі турыст, які прыяжджае ў Саветы, але і камуніст... Усё матывуецца тым, што Нямеччына і Японія заключылі проціўкамуністычны саюз, паводле якога нямецкая і японская разьведкі забавязаліся даваць сабе інфармацыі аб камуніст. дзейнасьці. Дык сав. контр-разьведка пастаўлена на ногі, каб проціўдзеяць заграцічнай разьведцы...

Але ня толькі страх перад разьведкай быў прычынай апошніх падзеяў. Рашаючую ролю ў гэтай справе адыграла быццам з*мова проціў Сталіна.* Растраляныя крытыкавалі загады Сталіна, голасна выражалі сваё нездаваленьне з заграцічнай і нутраной палітыкі Саветаў, чым падрывалі аўтарытэт Сталіна. Да гэтага далучыліся падазрэньні, абапёртыя на паказаньнях Радка і сав. разьведкі, што Туг. і таварышы знаходзяцца ў кантакце з нямецкім вайск. штабам, што ўступілі Нямеччыне Украіну і Беларусь за помач у скіданьні Сталіна і што мае быць заключаны саюз паміж будучай Расеяй і Нямеччынай. Павадыром змовы быў Тугачэўскі, якому мелі памагчы начальнікі двух паважнейшых прыгранічных вайск. акругоў: украінскага — Якір і беларускага — Убарэвіч. Але дзякуючы Радку і начальніку ГПУ Ежову удалося змову выкрыць і нядошлы расейскі Напалеон — Тугачэўскі разам з сваімі генэраламі былі растраляны...

Гэтакае тлумачэньне крывавых падзеяў было агульна прынята зараз пасьля растрэлу. Аднак апошнія дні прынясьлі новае выясьненьне гэтых падзеяў — і то выясьненьне самога Сталіна. Сталін паясьніў карэспандэнту англійскай прэсы, што Туг. ня быў шпіёнам, які за грошы прадаваў вайсковыя тайніцы, а толькі меў зносіны з нямецкімі афіцэрамі, крытыкаваў дружбу Саветаў з буржуазнымі дзяржавамі і быў проціў уступленьня Саветаў у Лігу Народаў. Апроч гэтага Туг. стаяў на трацкістоўскім грунце рэвалюцыі па ўсім сьвеце, чаго быццам ня хоча Сталін, (бо стаіць на грунце будаўніцтва сацыялізму ў аднэй дзяржаве), Туг. стаяў за саюз Саветаў з Нямеччынай проціў Францыі і Англіі, на што Сталін пазволіць ня мог...

Трэба прызнаць, што гэтае выясьненьне зусім запутала справу і выясьняе толькі жаданьне Сталіна паддзяржаць добрыя адносіны з Францыяй і Англіяй, а сапраўдныя прычыны крывавых падзеяў мусіць надоўга яшчэ астануцца таёмнымі. Іх дакладна выясьніць хіба толькі гісторыя, калі адчыняцца архівы штабаў і разьведак.

Якіяж рэзультаты гэтых падзеяў?

Трэба прызнаць, што заграніцай яны аслабілі палажэньне Саветаў, а ўнутры ўзмацавалі. Заграніцай растрелы зрабілі такое вялікае ўражаньне, што прэса ўсіх краёў пачала пісаць аб поўным развале Саветаў і аб іх бязвартаснасьці, як саюзьнікаў. Тугачэўскі ведаў вайсковыя тайніцы Саветаў, Францыі і часткова Англіі — дык як можна з такой дзяржавай уваходзіць у Саюз, якая на найвышэйшых становішчах мае здраднікаў — пыталася прэса. На заграцічным грунце трэба будзе сав. дыплямацыі палажыць шмат працы, пакуль яна здабудзе давер.

Унутры Саветаў павага Сталіна, ягоная лінія і рэжым узмацуюцца, таксама як узмацавалася становішча Гітлера ў Нямеччыне пасьля растрэлу Рэма і тав. Армія і партыя будуць на ўслугах Сталіна і зробяць ўсё, чаго ён захоча. Толькі на выпадак вайны ў салдат могуць паўстаць падазрэньні, асабліва пасьля няўдач, у здрадніцтве афіцэраў і маршалаў, таксама як было ў царскай арміі. А гэтыя падазрэньні могуць прывесьці да дэмаралізацыі войска і да бунту. У часе вайны гэта аслабіць Саветы.

З нашага беларускага пункту гледжаньня прыход да ўлады Тугачэўскага ня быўбы карысны, так як ёсьць некарысны рэжым Сталіна. З тых вестак, якія да нас дайшлі, можна зрабіць вывад, што Туг. распачаўбы будаўніцтва расейскай нацыянальнай дзяржавы яшчэ ў большым маштабе, чым гэта робіць Сталін. Пры гэтым Расея Тугачэўскага былаб у саюзе з Нямеччынай, што былоб шкодна для Беларусі, бо Беларусь можа паўстаць не пры саюзе, а пры споры гэтых двух дзяржаў. Былі б адабраны ад беларусаў усе здабыткі культуры нават у яе нацыянальнай форме. Адзінай карысьцяй, якая выплывалаб з выступленьня Тугачэўскага, быўбы разлад у Расеі, які пазволіўбы беларусам яшчэ раз папробаваць сіл у будаўніцтве сваей дзяржавы. Але гэта залежыць ад усьведамленьня, сарганізаваньня і дасьпеласьці бел. мас. Народ здабывае для сябе дзяржаву тады, калі да гэтага дасьпее і калі надыдзе адпаведная часіна.

*В. Г.*

## *ЗАЦЕМКІ з ЖЫЦЬЦЯ.*

*Дэклямацыі аб беларусах.* Час ад часу польскія дзеячы бяруць голас, каб публічна выказацца ў бел. справе. У № 4 „Б.Фр.“ сёлета мы даўжэй затрымаліся над галасамі ген. Жэлігоўскага і пасл. В. Пэлчынскай адзначаючы іх цёплыя жаданьні і спагаднасьць для беларусаў. Прамову ў сойме В. Пэлчынскай мы назвалі мэтэорам, які хоць і не даляціць да зямлі, то ўсёжтакі дасьць крыху сьвятла і гуку. Цяпер, калі ужо мінае пяць месяцаў ад тае прамовы, мы павінны сьцьвердзіць, што яна ў рэзультаце не дала ані сьвятла ані гуку... Мэтэор ляцеў, праляцеў і згас — і ўсё асталося пастараму. Аб ім нават забыліся. Можа помніць аб ім толькі аўтарка прамовы ды — беларусы...

У апошніх месяцах мелі мы яшчэ два „мэтэоры“, якія адзначаем ня так дзеля калекцыі „мэтэораў“, як дзеля характэрыстыкі таго палажэньня, у якім знаходзімся. Прамовы гэтыя сьведчаць з аднаго боку аб пэўнай колькасьці добрай волі ў прамоўцаў, а з другога боку — аб іх бясьсіле.

Дня 30.V. г.г. адбыўся у Навагрудку вялікі зьезд новай проўрадавай партыі ОЗН. На зьездзе старшыня вясковага сэктару ОЗН ген. Галіца меў прамову, у якой закрануў і бел. справу. Паміж іншым ген. Галіца сказаў так: „Стоячы цьвёрда на аснове роўнасьці ўсіх грамадзян, якая загварантова-

# З жыцьця Савецкай Беларусі.

За апошнія месяцы Сав. Беларусь перажывае вялікія падзеі. Знаходзяцца яны, праўда, у цеснай лучнасьці з агульна савецкімі здарэньнямі, але маюць і свае мясцовыя, беларускія, фундамэнты. Падзеі ў БССР сьведчаць, што пасьля 20 гадоў кам. працы там ня толькі няма ніякай стабілізацыі адносінаў, а наадварот, масы бурляць і дужа дрэнна прадстаўляецца справа з партыйным кіраўніцтвам. Прыгледзімся бліжэй да апошніх здарэньняў у БССР.

### Сярод пісьменьнікаў.

У маёвым нумары „Б. Фр.“ мы падалі весьці аб прасьледаваньні і арыштах бел. пралет. пісьменьнікаў *Зарэцкага, Чарота, Дудара, Вольнага, Лынькова* і інш. Усіх іх лаюць далей, завучы нацдэмамі, фашыстамі і толькі да аднаго Лынькова адносіны, як відаць, папраўіліся (19. V. сёл. яго выбралі ў урад літар. фонду побач з Крапівай—старшынёй, ды Галавачом, ды Кульбакам). Апошнім часам („Зьвязда“ з 26. IV. сёл.) зьявіліся вострыя напады на дырэктара Гомельскага пэдаг. Інстытуту *Стэшэўскага*, якога завуць нацдэмам, здраднікам за тое, што быў вучнем ды прыяцелем нябожчыка праф. Ігнатоўскага, бел. гісторыка.

Нядаўна, у сувязі з падгатаўленьнем да 20 угодкаў бальшав. рэвалюцыі і да 1 угодкаў сьмерці М. Горкага, у сэкцыі крытыкаў Саюзу Бел. Рад. Пісьм. пастаноўлена, што „брыгада“ Акадэміі Навук будзе працаваць над тэмаю: „Супроць маскуючай крытыкі нацдэма Пятуховіча“. Пятуховіч—гэта ведамы гісторык бел. літэратуры. Весьці гэтыя („Літ. і Маст.“ з 18 V. сёл.) сьведчаць, што і *Пятуховіча* не абмінула прасьледаваньне.

Вельмі лаюць такжа бел. пісьменьнікаў *Каваля* і крытыка *Мікуліча.* Апошні быццам „аднае банды з раней арыштаванымі пісьменьнікамі“ (Літ. і Маст. з 23.V. сёл.).

Пасыпаліся вострыя напады і на кіраўнікаў Дзіцячага тэатру („Тэатр Маладога Глядзельніка“)— *Кавязіна, Родкевіча, Дольскага.* Закідаюць ім, што пад іх кіраўніцтвам да працы ў Дз. тэатры сьцягваліся „ведамыя непрыяцелі, фашыстыя, шпіёны і дывэрсанты *Лосік, Рагавенка, Саўка, Арлоўскі*“. Нападаюць і на мастака *Даркевіча,* а ў сэкцыі драматургаў ворагамі народу аказаліся яшчэ пісьменьнікі *Багун* і *Хатуль.* Напасьледак большасьць сходу сэкцыі драматургаў пастанавіла пераглядзець творства Галубка, Міровіча, Рамановіча і Ільлінскага.

### Справа Гікалы і Галадзеда.

Гікала — б. сэкратар КПБ, а Галадзед — старшыня Саўнаркому БССР былі звольнены з займаных становішчаў яшчэ да растрэлу Тугачэўскага і тав. Звальненьне гэтае было зусім неспадзяванае, бо абодва былі вернымі праваднікамі дырэктываў Сталіна і ЦКВКП на Беларусі і на найважнейшых бел. урачыстасьцях выступалі пераважна ў расейскай мове. Аб прычынах іхняга звальненьня спачатку нічога ня было ведама. Казалася нават, што гэта былі верныя сталінаўцы, добрыя бальшавікі, толькі не маглі справіцца з даручанымі ім заданьнямі. Глыбейшыя прычыны выясьніліся на сёлетнім XVI Зьездзе КПБ. Осьжа на гэтым зьезьдзе цяперашні сэкратар КПБ Шаранговіч і шэраг дакладчыкаў закідаюць Галадзеду і Гікале, што пад іх кіраўніцтвам зьвілі сабе гняздо правыя нацдэмы, трацкісты, царкоўнікі і іншыя ворагі народу. Адкрыта ані Гікале ані Галадзеду нацдэмаўшчыны не закідаецца, а называюць іх правымі апартуністамі, рэстаўратарамі капіталізму і г. д. Спачатку абодва былі на свабодзе, апошнім аднак часам іх арыштавалі і, як падаюць газэты, мае быць працэс.

### Трацкісты.

Між трацкістамі ў БССР праведзена шмат арыштаў. Да гэтай групы, як і да нацдэмаў, адносяцца востра. Закідаюцца ім цяжкія праступкі—шпіёнства, дывэрсыя і інш. Да трацкістаў у БССР, як відаць з арыштаў, належалі пераважна жыды. З Беларусаў найвыдатнейшым трацкістам арыштаваным аказаўся *Кавальчук*, стаяўшы на чале профсаюзаў. Арыштаваныя трацкісты займалі становішчы дырэктараў фабрык, трэстаў, рэдактараў газэт і інш. Лік іх няведамы.

### Нацдэмаўшчына.

Нацдэмаўшчына ізноў усплыла на верх і гэтым разам справа з ёй пастаўлена надта востра. Абмяжуемся тут выключна да прадстаўленьня гэтай справы паводле савецкіх крыніц.

На XVI Зьезьдзе КПБ Шаранговіч і шмат дэлегатаў з правінцыі падчыркнулі, што КПБ, змагаючыся ў апошнім годзе з трацкістамі, мала зьвяртала ўвагі на нацдэмаўшчыну. Нацдэмы скарысталі з гэтай палёгкі і шырака разгарнулі сваю шкодніцкую дзейнасьць. Найнебясьпячнейшым быццам ёсьць той факт, што нацдэмы зьвязаліся з масамі — і ня толькі вёскі але і гораду. Праца іхняя ў горадзе аблягчаецца тым, што КПБ не вяла адпаведнай агітацыі між гарадзкімі работнікамі, накіроўваючы ў апошніх гадох усю ўвагу на вёску. У рэзультаце КПБ можа пахваліцца малымі здабыткамі на вёсцы, а вялікімі стратамі ў гарадох. Нацдэмы маюць послух нават у партыйных арганізацыях. Шаранговіч кажа, што больш як 50% усіх парт-арганізацый у БССР было засьмечана або апанавана нацдэмамі. Асабліва буйна расьцьвіла нацдэмаўшчына ў Віцебску і Гомелю. У Віцебску з 191 партарганізацый нацдэмы апанавалі 188, а ў Гомелі з 143—109. Напрыклад, Вэтэр. Інст. у Віцебску, яго прафэсары і студэнты былі ярымі нацдэмамі—кажа прадстаўнік віцебскага гаркома Жураўлёў. Гэтымі людзьмі абсаджваліся становішчы вэтэрынараў ва ўсей Рэспубліцы і яны разносілі

на ў Канстытуцыі, мусіце, калегі, адносна беларускай меншасьці імкнуцца да стварэньня варункаў братняга і грамадзкага сужыцьця".

Дня 20.VI г.г. на зьездзе „Związku Młodej Wsi" ў Варшаве старшыня „Związku" Герат адчытаў ідэовую дэкларацыю, у якой была праведзена рожніца паміж меншасьцямі славянскімі і жыдоўскай. Адносна жыдоў было выражана пажаданьне эміграцыі іх з Польшчы, а адносна меншасьцяў славянскіх (беларусаў і ўкраінцаў) сказана так: „Імкнёмся да братэрства з славянскімі меншасьцямі Рэчпаспалітай, абапёртага на асноўных прынцыпах патрыятычнай хлопскай ідэолёгіі". Што разумеў Герат пад „патрыятычнай хлопскай ідэолёгіяй", у дэкларацыі не сказана. Гэты пункт дэкларацыі віл. „Słowo" з свайго пункту гледжаньня назвала безгалоў'ем. Мы назавём яе дэклямацыяй на палітычнай сцэне аб братэрстве славянскіх народаў.

*Ці дадуць на бел. культуру?* Дня 16. VI. у Сойме была прынята ўстава аб Фондзе Нац. Культуры ім. Я. Пілсудскага. Пасл. В. Пэлчынская прапанавала ад імя соймавай камісіі, каб у ўставе было выразна сказана, што з фонду маюць права карыстацца і іншыя народы, якія жывуць у Польшчы. Процiў гэтага неспадзявана выступіў ген. Жэлігоўскі, які заявіў, што такая ўстаўка далаб магчымасьць карыстацца з фонду і жыдом, якія павінны з Польшчы выехаць, дзеля гэтага ён, хоць нічога ня мае процiў культуры беларускай і ўкраінскай, прапануе зусім скасаваць гэты пункт. Папраўка ген. Ж. прайшла большасьцю 70 галасоў процiў 58 і гэтакім парадкам адкінены правы нац. меншасьцяў да карыстаньня з фонду. Нас тут дзівіць лёгіка ген. Жэлігоўскага: каб ня даць помачы жыдом, дык ня даць такжа беларусам і ўкраінцам! Ці не знайшлосяб іншага лёгічнейшага выхаду?

„Kurjer Wil." цешыць, што беларусы і ўкраінцы паміма гэтага могуць дастаць з фонду на разьвіцьцё сваей культуры. Але мы ў гэтай справе маем вялікія сумнівы: бо якім парадкам могуць дастаць паміма, а нават *процiў* закону? Як выглядае закон, які можна абыйсьці? Тут ужо сапраўды нейкае безгалоў'е! Мы дзівімся, што „Kur. Wil." яго не спасьцерагае!

# На беларускім грунце.

*(Агляд беларускага жыцьця).*

### Трохі аб сабе.

12 чэрвеня мінуў год, як мы пачалі выдаваць «Бел. Фронт». Праз гэты час можна было скантраляваць самых сябе і выслухаць галасы крытыкі. Праўда, рачовай крытыкі ў друку мы ня бачылі, бо тое, што пісала аб нас «Б. Крыніца» або «Бел. Доля», за рачовую крытыку ўважаць ня можна. Болей рачовай была вусная крытыка, якая, наагул бяручы, адносілася да нас прыхільна. Часта можна было пачуць словы, што нарэшце Беларусы здабыліся на *незалежны* орган, які хоць выходзіць і рэдка, але рэгулярна і асьвятляе з незалежнага становішча бел. жыцьцё. Разам з гэтым можна было пачуць закід, што газэта радагуецца, як для народу, завысока і акадэмічна.

Адносна рэдкага, бо месячнага зьяўляньня нашага часапісу мусім адзначыць, што пакульшто на часьцейшы мы яшчэ здабыцца ня можам. Не атрымоўваючы падмогі ад ніякай вонкавай сілы, а апіраючыся толькі на свае беларускія магчымасьці, мы прымушаны сьцьвердзіць, што гэтыя магчымасьці вельмі малыя і яны пазваляюць нам выдаваць часапіс толькі раз у месяц. Выпускаючы часапіс гэтак рэдка, мы аднак стараемся асьветліць беларускае і міжнароднае жыцьцё даволі ўсебакова, зварочваючы ўвагу на рэчы істотныя, а прапускаючы малаважную дробязь. Часьцейшае зьяўляньне нашага часапісу залежыць ад бел. грамадзянства, якое, прысылаючы нам падмогу, можа прычыніцца да часьцейшага выхаду.

Адносна завысокага, акадэмічнага рэдагаваньня мусім адказаць, што наш часапіс не празначаны для шырокіх народных масаў, а ў першую чаргу для нашай гарадзкой і вясковай інтэлігенцыі, якая інтарасуецца палітыкай, і праз якую ідзём у народ. Гэтая інтэлігенцыя часта шукае ў газэтах *глыбейшага* ўняцьця палітычнага і грамадзкага жыцьця і ня можа яго знайсьці. Чытаючы штодзенную прэсу, трудна часам зар'ентавацца ў цэлай паводцы розных, часта неправераных або і супярэчных вестак і ў чытача ствараецца нейкі хаос, які перашкаджае ў правільным зразуменьні палітычнага жыцьця. На помач у гэтакіх выпадках прыходзіць тыднёвік або месячнік, які, падаючы сынтэтычны агляд палітыкі, асьвятляе ня так факты і здарэньні, як прычыны і скуткі гэтых фактаў. Можна часам добра запамятаць розныя здарэньні, а ня ведаць прычыновай сувязі паміж імі. Гэтаму зразуменьню прычыновай сувязі, *адкуль* і *куды* ідуць розныя палітычныя здарэньні, служыць «Бел. Фронт». Дзеля гэтага ён ня толькі шырока асьвятляе беларускія справы, але і міжнароднае паліт. жыцьцё, зварочваючы ўвагу на мэты кожнай дзяржавы—а ведаючы *мэты* якой дзяржавы, інтэлігентны чытач лепш зразумее паасобныя факты і будзе ведаць, куды гэтыя факты ідуць...

Апроч гэтага мы паставілі сабе мэтай распрацоўку новага беларускага ідэолёгічнага кірунку, званага *каапэратывізмам*, а кожны ведае, што без тэорэтычных развагаў такая распрацоўка немагчыма. У нашай групе ідзе цяпер распрацоўка ідэолёгічных падстаў нашага палітычнага і грамадзкага кірунку; гэтыя падставы будуць і далей абгаварывацца па першых бачынах «Б. Фронту», каб стварыць ідэолёгічную плятформу нашай акцыі. Уважны чытач мог спасьцерагчы, што мы ў мінулым годзе займаліся болей палітычнымі справамі, а ў гэтым — грамадзкімі. У сваей працы спадзяёмся на помач незалежнага беларускага грамадзянства.

### Справа бел. ліцэю.

Дня 8 чэрвеня сёлета беларуская дэлегацыя адведала Міністэрства Асьветы ў Варшаве ў справе адкрыцьця беларускага ліцэю ў Вільні.

Справа гэта як мы чулі, скончылася на ветлівых словах з боку польскіх школьных дзейнікаў.

Блізу двухмільёны Беларускі народ у Польшчы (паводле польскае статыстыкі!), які адбывае ўсе грамадзкія павіннасьці і цяжары, ня мае свае ўласнае школы і магчымасьці культываваньня ў ёй сваіх нацыянальных вартасьцяў.

Нацыянальныя правы ўсіх меншасьцяў, а ў тым ліку і беларусаў, як ведама, загварантованы ўжо Вэрсальскім Трактатам з 1919 году, Уставай языковай з 1924 г. і апошняй красавіковай Канстытуцыяй,

У час нямецкае акупацыі, а потым г. зв. „Сярэдняе Літвы" было на бел. землях у межах Польшчы 514 школ, якія амаль усе да 1924 г. былі зліквідаваны. На аснове закону з 31.VII. 1924 г. былі адчынены дзяржаўныя беларускія школы ў Польшчы ў ліку 21 і 69 двуязычных польска-беларускіх. Але ў 1935 годзе, як падае „Mały rocznik statystyczny", было толькі 16 беларускіх пачаткавых школ, а дзяцей у гэных школах быццам 2100. Цяпер які стан — усе ведаюць. З сярэдніх школ, якіх было некалькі яшчэ да 1930 г. сяньня асталася толькі адна гімназія ў Вільні, ператвораная на філію польскае дзяржаўнае гімназіі імя Славацкага. Паводле новага закону стары тып 8-клясавай гімназіі касуецца, а замест яго творыцца 4-клясавая гімназія і двух або трохгадовы ліцэй. Адчыніць бел. ліцэй у Вільні не захацелі і ў гэтай-то справе езьдзілі беларускія дэлегаты ў Варшаву. — Але без рэзультату.

Калі мы, беларусы, дамагаемся ў Польшчы дзяржаўнае беларускае школы, робім гэта з такіх прычын: 1) з прызнаных нам Канстытуцыяй і ўставамі правоў, 1) з прыроднага права роўнасьці народаў, якое павінна быць падставай кожнай дзяржавы.

Кіраўнікі польскай палітыкі даўней і цяпер (ОЗН) заўсёды цьвярдзілі аб братнім сужыцьці і аб спагаднасьці да бел. нац. жаданьняў, паколькі гэтыя жаданьні не нарушаюць інтарэсаў Дзяржавы і не выклікаюць ненавісьці. Цяпер пытаньне, ці адчыненьне бел. ліцэю ў Вільні ёсьць супярэчным з інтарэсамі Польскай Дзяржавы і ці выклікае з чыйго-колечы боку ненавісьць? А можа якраз наадварот?

---

нацдэмаўскую заразу па ўсей Сав. Беларусі. Выключна нацдэмаўскімі аказаліся ў Віцебску арганізацыі чыгуншчыкаў. З гэтых прычын у Віцебску апошнімі часамі, як кажа Жураўлёў, арыштавана 45 нацдэмаў, займаўшых кіраўнічыя становішчы і сотні шэрых працаўнікоў. Жураўлёў кажа, што лепшыя віцебскія камуністы даўно прасачылі сувязь віцебскіх нацдэмаў з нацдэмамі фашыстамі: Убарэвічам, Дзякавым, Бэнакам і інш. і зьвярталі на гэта ўвагу Галадзеда і Чарвякова. Апошнія аднак на гэта зусім не рэагавалі.

Як нацдэмаў апошнім часам арыштавалі: *Дзякава,* кам. Асьветы БССР, *Бэнэка* — каміс. Земляробства, *Уладзімірскага* — начальніка бел. чыгункі, *Галендv* і *Пятровіча* з дзяржпляну і сотні іншых. Уладзімірскаму закідаецца між іншым і ўмыснае выкліканьне катастрофы вайсковага цягніка ў Гомелі. Арышты нацдэмаў наступілі пасьля растрэлу камандзера бел. вайсковай акругі Убарэвіча. Справа апошняга аказалася цесна злучанай з справай пералічаных нацдэмаў. На XVI Зьезьдзе КПБ Убарэвічу закідалася выразна шпіёнства, і нацдэмаўшчына і імкненьне да адлучэньня БССР ад Савецкага Саюзу. У гэтым-жа вінавацяць і арыштованых нацдэмаў. Менская газэта „Зьвязда" з 17. VI. сёл. у перадавіцы афіцыяльна паўтарае пералічаныя закіды Убарэвічу, Дзякаву, Бэнэку і іншым нацдэмам, дагледаючыся тут цеснага паразумленьня. „Зьвязда" з гэтай-жа даты кажа, што пакуль што органы НК Нутр. Спр. разграмілі тайны цэнтр нацдэмаўшчыны, але на гэтым спыніцца нельга, бо сельская гаспадарка, прамысловасьць, школьніцтва «засьмечаны нацдэмаўскімі ворагамі народу». Адбываюцца ўсё новыя арышты.

### XVI Зьезд Кам. Партыі Бел.

Гэты зьезд адбыўся ў Менску між 10 і 19 чэрвеня. Зьезд гэты быў асабліва бурны. Зразумела, падчыркнена дзясяткі раз вернасьць Сталіну і яго ЦК, а такжа палючая неабходнасьць увядзеньня ў жыцьцё яго апошніх дырэктываў.

З дакладу Шаранговіча, дыскусіі і выступленьняў правінцыянальных дэлегатаў высьнілася шмат цікавых мамэнтаў, характэрызуючых цяперашнія адносіны ў БССР.

КПБ пасьля чысткі налічвае ўсяго каля 34.000 сяброў і 2506 асноўных партарганізацый. Пасьля абновы партыі і ачысткі ад „ворагаў народу" нацдэмаў і трацкістаў партыйныя ўлады абсаджаны ў 52% беларусамі, а сацыяльны склад партыі гэткі: 69%—работнікі, каля 15% сяляне і толькі-ж служачых. Да апошняга часу партыя цікавілася амаль выключна гаспадарскімі мэтамі, не зьвяртаючы належнай увагі на палітычную працу. Бандыты-нацдэмы, як іх заве сав. прэса, Убарэвіч, Дзякаў, Бэнэк і інш. пашыралі ў партыі „ратазейства, ідыётскую бязклопатнасьць, баранілі ворагаў".

Камсамол налічвае 73.527 сяброў, з чаго 30% дзяўчат. Праца ў гэтай арганізацыі вялася надта дрэнна. Партыя мала зьвяртала ўвагі на камсамол. Ня меў такжа камсамол ніякае лучнасьці з несаюзнай моладзьдзю гораду і вёскі. Моладзь агулам жыве асобна і ня цікавіцца камсамолам. У школах камсамольскія арганізацыі ледзь-ледзь дышаць, што Шаранговіч аб'ясьняе процiўдзеяньнем нацдэмаўскага настаўніцтва, якое паралiжуе разьвіцьцё камсамолу.

Асабліва дрэнна прадстаўляецца справа з прафсаюзамі; якія перажываюць сьмяротны крызыс. Пануе там бюрократыя, адарванасьць ад масаў, нястача пільнасьці, масавыя растраты грамадзкіх грошаў і інш. балячкі. Гэта нічога дзіўнага, кажа Шаранговіч, бо профсаюзамі кіраваў трацкіст Кавальчук.

У галіне партыйнага кіраўніцтва Саветамі праца ішла дужа дрэнна. Панавала там кааптацыя сяброў, ніякіх выбараў ня было, на паседжаньні мала хто прыходзіў. У апошнія часы ў сувязі з надыходзячымі выбарамі паднялі галаву антысавецкія элемэнты і між іншым царкоўнікі. На дзейнасьць царкоўнікаў зьвяртае ўвагу Готфрыд, які кажа аб пашырэньні дзейнасьці розных сэктаў. Усё гэта добра разьвівалася пад кіраўніцтвам Галадзеда.

Сэкратар гомельскага райкома Стакун жорстка распраўляецца з Чарвяковым, закідаючы яму мноства разнаякіх памылак, адсутнасьць самакрытыкі. Лаіць Чарвякова і сэкратар Віцебскага гаркому Жураўлёў,

### Трагэдыя Чарвякова.

Даўгагадовы старшыня ЦВК КПБ (прэзыдэнт БССР) Чарвякоў яшчэ 10. VI. сёл. засядаў за прэзыдыяльным сталом на XVI. Зьезьдзе КПБ. Але ўжо 15. VI. яму былі пастаўлены закіды, характэрызуючыя яго як шкодніка. Чарвякоў бараніўся ў даўгой прамове, але гэта не памагло. Пачуўшы закіды супрацоўніцтва з нацдэмамі ды Убарэвічам, зразумеў, што лёс яго скончаны. Ня хочучы зьгінуць у ГПУ, ён 17. VI. скончыў жыцьцё самагубствам. На заўтрашні дзень менская „Зьвязда" падала кароценькую зацемку гэткага зьместу: «учора ў 7 гадз. вечара пахавана цела Чарвякова, старшыні ЦВК КПБ, які пакончыў жыцьцё самагубствам на асабістай сямейнай глебе». І толькі.

### Далейшыя арышты.

Паводле вестак савецкай і эўрапэйскай прэсы ў БССР праводзяцца далейшыя масавая арышты болей, чым у іншых рэспубліках. Трудна пакуль што заналізаваць усе гэтыя здарэньні і зрабіць вывады. Адно толькі не падлягае ніякаму сумлеву — гэта магутны рост бел. нацыянальнага руху ў БССР. Не зважаючы на колькіразовыя разгромы, рух гэты ня толькі не слабее, але агортвае ўсё шырэйшыя народныя масы.

*П. С. Ш.*

Можа неадчыненьне бел. ліцэю ёсьць супярэчным з інтарэсамі Польскай Дзяржавы і выклікае у беларусаў пачуцьцё крыўды?

### Канфіскаты.

Сканфіскаваны адм. уладамі бел. лемантар «Zasieuki», выданы лацінікай. Прычынай канфіскаты, як мы чулі, было тое, што ў лемантары ня было нічога аб Польшчы і Прэзыдэнце. Сканфіскавана также аднаднёўка «Голас Студэнта», выданая В. Ярмалковічам з датай 25 VI. г. г. Выйшла другое выданьне пасьля канфіскаты. Узровень, як на часапіс *студэнтаў* (у множным ліку), даволі нізкі.

## Спосабы асыміляцыі.

Выйшла з друку п'еса для народн. тэатраў пад заг. „Wieś wileńska przebojem do kultury«. Напісаў яе СэрафінОсененко, выд. „Wileński ZwiązekTeatrów i Chórów Ludowych . П'еса напісана тэндэнцыйна ў мове ўтраквістычнай польска-беларускай. Літэратурнай вартасьці ня мае ніякай, але затое цікавая як спосаб агітацыйнага падыходу некаторых кругоў да беларускага насельніцтва. Аўтар паходзіць з Пастаўскага павету, з беларус. сям'і кончыў 3 аддзелы народнай школы, народную земляробскую школу ў Лучаі, курс „пшодовнікув вейскіх" у Вільні, які ў брашуры шумна названы народным унівэрсытэтам; мае намер яшчэ кончыць каапэрат. школу ў Налэнчове, а потым арганізаваць край „да лепшага заўтра". Ці мае намер болей пісаць гэтакія п'есы — не сказана.

Зьмест п'есы такі: вясковы хлапец, Владэк (раней Валодзька) хоча вучыцца ў земляробскай школе, але ня мае за што, дык пастанаўляе зьвярнуцца да самаўраду з просьбай помачы. Маці і сёстры Владка спрыяюць ягоным плянам, але бацька і слухаць ня хоча, бо „не разумее патрэбы асьветы". Владэк ад самаўраду помач дастае і едзе ў земл. школу супраць волі бацькі. Владэк канчае школу і варочаецца да хаты, бацька перамяняе свае адносіны да сына, нават пачынае вучыцца ад сына чытаць (папольску), а сын працуе над арганізаваньнем „Kół Młodzieży Wiejskiej". Але найцікавей тое, што старое пакаленьне ў п'есе гаворыць пабеларуску(«w miejscowej gwarze"), а маладое папольску, якое і бярэ верх над выміраючым старэйшым. У гэтым і ляжыць уся *сутнасьць* п'есы. Апроч гэтай п'есы вышла ўжо падобная: „Kupała" (noc świętojańska) uroczystość ludowa ziemi Nowogródzko-Wileńskiej; друкуецца „Wesele w Nowogródczyznie" і ў апрацоўцы: „Na Kalady" З. Нагродзкага і „Wieczorynka" Яна Гопкі. У тых п'есах, што ўжо выйшлі, ня сказана нідзе, што яны ўзяты з беларускага жыцьця або песьні, што там паданы, ёсьць беларускія; там сказана, што яны ёсьць рэгіональныя, узятыя з „miejscowej gwary". (Аб п'есе „На Каляды" мы далі рэцэнзію ў 2 н-ры „Б. Фр.« у мін. годзе).

Гэтыя п'есы сьведчаць ужо аб пэўнай *сыстэме* накаторых кругоў у кірунку асыміляцыі беларусаў. Цяперашні іх падыход да бел. справы такі: Прызнаецца беларусаў не за аддзельны народ, але за племя, калі ўжо і ня зусім польскае, дык зьбліжанае, а беларуская мова — гэта не язык, а „gwara" Можна называцца і беларусам, але гэтым яшчэ не зрываецца еднасьці з народам польскім, да якога належаць розныя плямёны, як кашубы, шлёнзакі і інш. а ў тым ліку і беларусы.. На гэтакім становішчы, здаецца, стаў і „Kurjer Wil., які 17.VI г. г. гэтак пісаў: „Mamy prawo i powinniśmy uznać zarówno młodą kulturę ukraińską jak i białoruską za twory całkowicie nam bliskie i pokrewne". Значыць, аддзельнасьці ўкр. і бел. культуры не прызнаецца. Другім разам тойжа „Kurjer Wil." (5. VI. г. г.) пісаў, што „jest folklor góralski, dlaczego nie ma być folkloru białoruskiego w Polsce"? Стаўляньне на аднэй плошчы фольклёру „гуральскага" і беларускага сьведчыць або аб злой волі, або аб поўнай ігнаранцыі аўтара. Магчыма, што гэта другое, бо адначасна аўтар стараецца аказаць нейкую сымпатыю для беларусаў.

## На міжнародным грунце.

*(Агляд міжнароднай палітыкі за месяц чэрвень).*

### Гішпанія.

Гэтая краіна і далей зварочвае ўвагу ўсяго палітычнага сьвету. Галоўным фактам у чэрвені была проба затапленьня другога ням. карабля „Ляйпціг", ўжо не пры помачы бомб, як „Дэйчлянд", але пры помачы тарпэдаў, якія выпусьціла падводная лодка. Што было-б, каб тарпэды папалі і „Ляйпціг пайшоў на дно, трудна згадаць. Цяпер-жа гэта другая правакацыя, з мэтай выклікаць сусьветную вайну, давяла да таго, што Ням. і Італія адказаліся ад кантролі гішп. берагоў. Дзеля гэтага запуталася вельмі міжн. палажэньне. Пасьля выпадку з „Ляйпцігам" Ням. і Італія зажадалі супольнай дэмонстрацыі флётаў усіх 4 дзяржаў, значыць і Англіі і Францыі проціў ураду ў Валенцыі, а такжа адабраньня ад яго ўсіх падводных лодак. Ясна, што Англія і Францыя на гэта не згадзіліся. Болей таго, анл. прэса пачала пісаць, што ніякага тарпэдаваньня „Ляйпцігу" ня было, што гэта ўсё выдумка... Гэта прывяло да яшчэ большага завастрэньня канфлікту. Нават была адложана візыта ням. міністра загр. спраў Нойрата у Лёндыне.

Хоць Ням. і Італія адказаліся ад кантролі гішп. берагоў, але з Камітэту Неінтэрвэнцыі ня выйшлі. Паўстаў нават праект, каб англ. і франц. караблі праводзілі кантролю, а Камітэт Неінтэрвэнцыі меў над імі ўладу. Ням. і Італія ня хочуць выходзіць з Камітэту дзеля таго, што гэты Камітэт дае магчымасьць кантакту з Англіяй і Францыяй і ёсьць канкурэнтам для Лігі Народаў, якой не прызнаюць ані Ням. ані Італія. І сапраўды, Ліга Нар. перад гэтым Камітэтам тушуецца. (У камітэт уваходзяць: Англія, Францыя, Нямеччына, Італія і Саветы — значыць усе дзяржавы, якія прымаюць удзел у *інтэрвэнцыі* ў гішпанскіх падзеях, хоць камітэт завецца Камітэтам *Неінтэрвэнцыі*. Такіх парадоксаў у палітыцы многа!)

З нутраных падзеяў у Гішпаніі трэба адзначыць ўзяцьце паўстанцамі пасьля доўгіх і крывавых баёў, сталіцы Баскіі, Більбао. Паўстанцы кваляцца, што здабылі шмат аружжа і амуніцыі, у гэтым 220 гармат. Муссоліні заявіў, што гішп. крызыс будзе разьвязаны тады, калі Франко здабудзе Баскію і кіне свае войска на мадрыцкі фронт. Тады справы пойдуць скора...

Мы згаджаемся з тым, што справы пойдуць скарэй (Більбао было здабыта пры помачы італьянцаў), але і міжнароднае палажэньне запутаецца яшчэ болей. Аканчальная перамога тэй ці іншай стараны ў Гішпаніі задэцыдуе аб палітычным выглядзе Эўропы і можа прынесьці вялікія ўзрывы... Гішпанскія падзеі нарушаюць інтарэсы вялікіх дзяржаў і вайна вісіць на валаску..

### Польска-румынскі саюз.

Паміж Польшчай і Рум. адбываюцца штораз бліжэйшыя перагаворы і візыты з мэтай скрапленьня польс.-рум. саюзу. Абедзьве дзяржавы цьвярдзяць, што іх саюз ёсьць толькі абаронным і мае служыць за бар'ер паміж камуніст. і фашыстоўскім сьветам. Аднак Саветы бачаць у поль-рум зьбліжэньні проціўсавецкі блёк і пачалі ўкрапляць ўсю зах. граніцу ад Ладагі аж да Чорнага мора. Лінія украпл. мае быць падобная да слаўнай франц. лініі Мажыно. Апроч гэтага сав. прэса падняла проціў Польшчы страшэнную агітацыю, а часьць франц, прэсы піша, што Польшчы трэба спыніць выплату прызнанай пазыкі... Ведамы франц. публіцыст Пэртінакс у „Эко дэ Пары" піша, што поль-рум. саюз мае характар не абаронны, а нападаючы і мае на мэце супольны з Гітлерам марш на Кіеў... Віл. „Słowo", якое падало гэтую вестку, навывае яе „буйдай" і жадае дыпляматычнай інтэрвэнцыі перад франц. урадам проціў такой пісаніны.

### Нямецка-францускае зьбліжэньне.

Жывём у часох вялікіх дыплёматычных камбінацыяў. Не памылімся, калі скажам, што найбольшую актыўнасьць праяўляе ням. дыплямацыя. У якім кірунку? Гітлер дзяржыцца лініі, выказанай у сваей кнізе „Mein Kampf", паводле якой галоўным ворагам Ням. ёсьць Саветы; Францыя — паколькі дружыць з Саветамі, а з Англіяй трэба навязаць самыя цесныя зносіны і нават дружбу. Дзеля гэтага ням. дыплямацыя хоча зьбліжыцца да Англіі і Францыі, каб адцягнуць іх ад Саветаў...

Ідучы па гэтай лініі езьдзіў у Парыж шэф ням. штабу ген. Бэк (ня мяшаць з польскім мін. Бэкам!) з мэтай навязаць зносіны з франц. вайсковымі кругамі. Ген. Бэк гаварыў у справах бясьпечнасьці на захадзе і разаружэньня. Прэса з гэтай нагоды пачала пісаць нават аб ням. франц. саюзе! Аднак да саюзу яшчэ далёка, але зьбліжэньне зусім магчымае — і то проціў Саветаў... — Калі мы возьмем пад увагу яшчэ актыўнасьць ням. дыплямацыі у сярэдняй Эўропе, тады лёгка зразумеем страх Саветаў перад магчымымі падзеямі. Лепш зразумеем і Тугачэўшчыну. Бо немцы, шукаючы саюзьнікаў па ўсім сьвеце магчыма, пашукалі іх і ўнутры Саветаў... З усяго вывад, што *нешта робіцца ў* дыпляматычным падзямельлі.

Гаворачы аб Францыі ня можна памінуць і таго, што Блюм пайшоў у дымісію, а на яго месца стаў прэм'ерам Шотан (Chautemps). Блюм, хоць паходзіць з народу фінансістаў, аднак давёў фінансы Францыі да поўнага краху (25 мільярдаў франкаў буджэтнага недабору за адзін год!). Блюм уступіў затым, што сэнат адмовіў яму поўнамоцтваў патрэбных дзеля ратаваньня фінансаў. Відаць ня меў да яго даверу. Міністрам скарбу стаў ведамы фінансіст Боннэ, які дэкляраваў увесьці роўнавагу буджэту, падняцьце падаткаў, паніжэньне франка і большую ашчаднасьць у выдатках. Наагул нутраное палажэньне Францыі, паміма яе багацтва, вельмі труднае. Кабінэт Шотана належыць, таксама як і кабінэт Блюма, да „людовага" фронту. Блюм астаўся ў тым кабінэце віцэпрэм'ерам.

Паводле апошніх вестак, усе спробы ням.-францускага зьбліжэньня трашчаць з прычыны гішп. падзеяў. Дайшло да таго, што саюзьніца Францыі, Англія, заявіла, што калі Ням. і Італія ня пойдуць на ўступкі ў справе неінтэрвэнцыі ў Гішпаніі, дык яны, Англія і Францыя, *„пазволяць"* аказаць помач ураду ў Валенцыі і што яны маюць на гэтае вялікія магчымасьці, большыя, чым Ням. і Італія ў іхняй помачы для паўстанцаў... Гэта выглядае ўжо на сапраўдны ўльтіматум пад адрасам Ням. і Італіі!

## З Польшчы.

*Правасл. Патрыярхат у Польшчы.* Газэта „Діло" прынясла вестку, што ў Польшчы мае паўстаць Правасл. Патрыярхат. Першым Патрыярхам мае быць пінскі епіскап Александар Іноземцэв, а цяперашні мітрапаліт Дзяніс Валедынскі выедзе заграніцу. Прыезд румынскага караля быццам знаходзіцца ў сувязі з утварэньнем Патрыярхату. Гэта ўсё паказвае, якія вялікія намеры мае польская палітыка адносна Прав. Царквы ў Польшчы! Нам здаецца, што мы стаім на пярэдадні ўтварэньня цэнтру *польскага* праваслаўя ў Варшаве, як проціўвагі цэнтру *расейскага* праваслаўя ў Маскве. Сапраўды, пачынаецца рэалізацыя далёкіх плянаў, далейшых, чым у мінулыя вякі! Трэба прызнаць, што польская ўсходняя палітыка ў апошніх часох стала вельмі актыўнай.

*Цела маршалка Пілсудскага.* Як ведама, цела марш. Пілсудскага было зложана на вечны супакой на Вавэлі пры грабох польскіх каралёў. Тымчасова яно было зложана ў крыпце (падзямельнай капліцы) сьв. Леонарда, а потым мела быць перанесена ў крыпту „пад Сярэбранымі Званамі", якая тымчасам рэмантавалася. Раптам 23. VI. разыйшлася вестка, што цела Маршалка было перанесена ў гэтую крыпту па загаду кракаўскага арцыбіскупа Сапегі супроць волі Прэзыдэнта і кіруючых дзейнікаў у Польшчы! Паўстала цэлая бура. Ген. Складкоўскі падаўся ў дымісыю, матывуючы тым, што ня мог перашкодзіць у абразе культу марш. Пілсудскага, але Прэзыдэнт дымісыі не прыняў. Пачаліся маніфэстацыі і вечы санацыйных кругоў, на якіх выносіліся рэзалюцыі выгнаньня арц. Сапегі, адданьня Вавэлю пад загад дзяржавы, *склıканьня Сойму*; старшыня Акадэміі Літэратуры Серошэўскі выступіў з жаданьнем арыштаваць арцыбіскупа, а падчас маніфэстацыі ў Варшаве чуліся галасы, каб арцыбіскупа паслаць у Бярозу!... Словам, узбурэньне паўстала ў лагеры пілсудчыкаў вялізарнае. Затое эндэцыя салідарызавалася з арц. Сапегай. Польскі пасол пры Ватыкане выступіў з жаданьнем засуспэндаваньня (завяшэньня) арцыбіскупа, але Папа адмовіўся. Тымчасам арц. захварэў і цела Маршалка прабывае ў крыпце „пад Сяребр. Званамі".

Як прычыну пераносін арцыбіскуп падаў частае нарушаньне павагі і сьвятасьці месца тымі, якія адведвалі цела Маршалка, пры гэтым людзьмі нехрысьціянскага вызнаньня (дарога ў крыпту сьв. Леонарда праходзіць праз касьцёл). Ці былі яшчэ іншыя, закулісныя прычыны—няведама. Трэба прызнаць, што пераносіны цела Маршалка паглыбілі і так вялікі падзел у польскім грамадзянстве і спаралiжавалі акцыю палк. Коца ў тварэньні ОЗН-у. Абедзьве староны шукаюць цяпер нейкага кампрамісу.

*БЕЛАРУСЫ, калі хочаце ўсебакова пазнаць беларускую і сусьветную палітыку, выпісвайце „БЕЛАРУСКІ ФРОНТ".*

**Рэдакцыйная калегія:**

*інж. Л. Дубейкаўскі,*
*мгр. В. Гадлеўскі,*
*мгр. М. Шкелёнак,*
*студ. В. Папуцэвіч,*

Адказны рэдактар: *мгр. В. Гадлеўскі*

*Наступны нумар „БЕЛАРУСКАГА ФРОНТУ" выйдзе 5-га жніўня.*

Выдавец: В. ПАПУЦЭВІЧ. Друк. Я. Левіна Вільня, Нямецкая вул. 22. Тэл. 21-14.